# КАТАЛОГ

## „КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ І СТУДЗЕНЬСКАЕ ПАЎСТАННЕ 1863 года НА БЕЛАРУСІ“

### Збор мастацкіх твораў



Мінск 1989



*А. Крывенка. «З думай пра Каліноўскага».*
*Партрэт старшыні клуба «Спадчына»*
*А. Белага.*

Мінскі інстытут культуры

# КАТАЛОГ
# „КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ
## І СТУДЗЕНЬСКАЕ ПАЎСТАННЕ 1863 ГОДА НА БЕЛАРУСІ“

*Збор мастацкіх твораў*

*Складальнік Анатоль БЕЛЫ*





Мінск 1989



Гэтае выданне прысвечана выдатнаму беларускаму рэвалюцыянеру, паэту і публіцысту. кіраўніку паўстання 1863 года Кастусю Каліноўскаму. 2 лютага 1988 г. споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Беларускі народ сумесна з літоўскім і польскім урачыста адзначыў гэты юбілей. 23 сакавіка 1989 г. спаўняецца 125 гадоў з дня гераічнай гібелі выдатнага беларускага рэвалюцыянера.

У гонар гэтых векапомных гістарычных падзей у Палацы мастацтва ў Мінску была наладжана выстаўка «За нашу і вашу волю». У гэты ж час калекцыянер Анатоль Белы арганізоўвае выстаўку графічных твораў прысвечаных юбілею ў тэхналагічным інстытуце, а з 26 лютага па 6 сакавіка такую ж выстаўку ў Палацы культуры чыгуначнікаў. Тут былі паказаны, акрамя графічных твораў, жывапісныя і скульптурныя. У пачатку лістапада 1988 г. у выставачнай зале Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музееў збор А. Белага быў зноў прапанаваны на погляд грамадскасці. Сюды ўпершыню быў уключаны багаты ілюстраваны каталог выстаўкі (звыш 70 рэпрадукцый жывапісных твораў, графікі, экслібрысаў, скульптурных твораў і медальернага мастацтва). 500 экземпляраў каталогу былі раскуплены за некалькі дзён, цяпер ён стаў бібліяграфічнай рэдкасцю.

Вось чаму наспела вострая неабходнасць перавыдання каталогу, а таксама найбольш грунтоўнага яго пашырэння, так як ён з'яўляецца каштоўнай крыніцаю абуджэння нашай гістарычнай памяці, паглыблення гістарычных ведаў, карысным вучэбным дапаможнікам для студэнтаў філалагічнага профілю, рабочай і школьнай моладзі.

Сардэчныя словы ўдзячнасці ўсім тым, хто ствараў Галярэю бессмяротнай славы Кастуся Каліноўскага, а таксама тым, хто дапамагаў у зборы і падрыхтоўцы фотаздымкаў і рэпрадукцый да друку і ў першую чаргу фатографам Андрэю Спрынчану, Валянціну Уласаву, Вячаславу Эйсману, якія зрабілі звыш сотні фотаздымкаў і перадалі іх для кнігі; мастакам Фёдару Ладуцьку, Анатолю Крывенку, Уладзіміру Жуку, захавальніку мастацкага фонда Эдзі Захараўне Блішч, цынкографу Анатолю Вайніцкаму і многім іншым.

# Каталог выстаўкі

**„КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ**
**І СТУДЗЕНЬСКАЕ ПАЎСТАННЕ**
**1863 ГОДА НА БЕЛАРУСІ“**

**З калекцыі Анатоля Белага**
**(жывапіс, графіка, экслібрыс, скульптура, медальернае мастацтва)**



Мінск 1988 г.

ПРАЎЛЕННЕ ТАВАРЫСТВА «ВЕДЫ» БЕЛАРУСКАЯ ССР



*А. Я. Белы*

**ВОБРАЗ ЗМАГАРА**

**(Да 150-годдзя з дня нараджэння К. Каліноўскага)**



Мінск, 1988





Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здатна толькі да сахі, — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядлівую як Бог на небе. О, загрыміць наша праўда і як маланка пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, але яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўдай.

«Мужыцкая праўда», № 1.

...Мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу панам, ані аброку ў казну, за зямлю, бо гэта зямля да нас належыць, але калі будзе вайна з Маскалём за нашу вольнасць, то той час трэба ўсім ісці на вайну проці Маскаля... Каб ніколі, ніякай, ніякому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плацілі і каб на векі вякоў народ наш быў вольны і шчаслівы.

«Мужыцкая праўда», № 2.

...Чалавек вольны, гэта калі мае кусок сваёй зямлі, за каторы ані чыншу і аброку не плоціць, ані паншчыны не служыць — калі плаціць малыя падаткі і то не на царскія стайні, псарні і курвы, а на патрэбу цэлага народа, калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае дзе, а ідзе бараніць свайго краю тады толькі , калі які непрыяцель надыдзе, — калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзяды, прадзеды. Вось што вольнасць значыць.

x x x

...Нам не маніхвестаў, а вольнасці патрэбна — і то вольнасці не такой, якую нам Цар хоча даці, але якую мы самі мужыкі паміж сабою зробім. А для таго, Дзяцюкі, каб ніхто вас не мог ашукаць цяпер ужо талкуйце паміж сабою, якой вам вольнасці патрэбна і якім адно спосабам мужык яе дастаці можа.

x x x

...Няма чаго ждаці ад нікаго, бо той толькі жне, хто пасее. Дык сейце ж, Дзяцюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою, не шкадуйце працы — каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цэлым свеце.

«Мужыцкая праўда», № 3.

І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ўрад глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіць так, як народу лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ўраду, а ўрад для народу.

У нас, Дзяцюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а то для таго, каб цябе зусім перарабілі на маскаля.

x x x

...Мужык пачуў вольнасць — а мужыка вольнасць гэта ўсё роўна, што шыбеніца для ўсіх здзёрцаў і глуміцеляў народа.

...Мужык хоча, каб ніхто не смеў драці з нікога — і для таго, як мы яго (Маскоўскага) ураду, так ён нашай вольнасці баіцца.

«Мужыцкая праўда», № 4.

А маскоўскае жыццё — горка ўжо доля. Забыці нам трэба, што ёсць у нас наша бацькаўшчына, што ёсць у нас наша радня, а аддаці жыццё не за дабро і шчасце ўсіх, а за ліха і вечную няволю нашых братоў.

x x x

За мужыцкую крыўду стоўце смела, усе разам і калі хто захоча крыўдзіць вас, выцягаці рэкрута... то вы яго таўчыце мужыцкая рукою...

«Мужыцкая праўда», № 5.

...Станьма дружна разам за нашу вольнасць!.. Трэба нашым хлопцам спяшацца з віламі ды з косамі там, дзе дабіваюцца волі ды праўды... А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам і бацькам.

«Мужыцкая праўда», № 7.

Калі ранд польскі (паўстанскі ўрад Варшавы) усім братнім народам дае самарондства (самакіраўніцтва), маскаль мала таго, што гэтак не робіць, но яшчэ там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах вучаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, палітоўску ды і па-беларуску, як народ таго хоча, а ў гэтыя школы адно з другога канца свету маскалёў насылаюць, што толькі ўмеюць красці, людзей абдзіраці дай служыць за грошы паганаму дзелу на глум народу.

x x x

Но не мала працы трэба, каб здабыць гэту свабоду, каторай жджэ ўсякі, пачуўшы ад дзіцяці да старога дзеда...

Нам адно сільно з шчырай верай за сваё стаяці трэба, а ронд наш павінен быць на ўсё чуткі, каб мог для дабра народнага з усяго карыстаць.

x x x

...Слова ронду польскага «вольнасць», «роўнасць» дай «свабода народу» пяройдзе ў кроў кожнага і цэла моц маскоўская нас не пераможа, хаця ж бы яму самае пекла памагаці стала.

x x x

...Народзе,... з чым можаш ідзі ваяваці за свайго бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчыну. Для цябе ўсё можна: нож, сякера, атрута; гэта твае спосабы, бо табе, як таму мужыку нявольнаму, бязпрацоўнаму не прызнаюць права самаабароны, бо табе нічога не можна.

x x x

Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку.

x x x

Но як дзень з ноччу не ходзяць разам, так не ідзе навука праўдзіва з няволяй маскоўскай.

x x x

Для таго, народзе, як толькі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но ўхапіўшы за што зможаш, за косу, сякеру, цэлай грамадой ідзі ваяваць за сваё чалавечае і народнае права, за сваю землю родную.

Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе.

Твой слуга Яська-гаспадар з-пад Вільні.
«Да люду беларускага. Лісты з-пад шыбеніцы».





У мінулым годзе беларускі народ разам з народамі нашай краіны, адзначыў 150-годдзе з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і 125-годдзе з пачатку студзеньскага паўстання 1863 года ў Польшчы, Беларусі і Літве. З тае нагоды праводзілася ў лютым 1988 г. у Палацы мастацтва рэспублікі выстаўка твораў мастакоў, якім дорага памяць народа, яго гістарычная і рэвалюцыйная спадчына, якія ганарацца слынным сынам зямлі беларускай.

Зварот мастакоў да вобраза К. Каліноўскага ў выяўленчым мастацтве Беларусі мае даўнюю традыцыю. Ёсць звесткі, што яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі быў створаны літаграфічны партрэт беларускага рэвалюцыянера, які на жаль не ўдалося пакуль выявіць.

Але сам факт з'яўлення ў дарэвалюцыйныя гады літаграфічнага партрэта К. Каліноўскага з'яўляецца яскравым сведчаннем не толькі павагі, але і дзейсным сродкам рэвалюцыйнай прапаганды і агітацыі народных мас на вобразе гераічнай асобы рэвалюцыянера.

Пасля рэвалюцыі цікавасць да асобы К. Каліноўскага ўзрасла. Так на сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра ў 1923 годзе быў пастаўлены спектакль «Кастусь Каліноўскі». Дэкарацыі да яго былі створаны мастаком Аскарам Марыксам, які сумеў перадаць гістарычную дакладнасць і канкрэтнасць. Дэкарацыі спрыялі стварэнню рамантычнага настрою, выклікалі эмоцыі, адпаведныя гераічным справам Каліноўскага і яго паплечнікаў.

Стварэнне гісторыка-рэвалюцыйнай драмы «Кастусь Каліноўскі» мела выключнае значэнне для ўвасаблення вобраза рэвалюцыянера ў выяўленчым мастацтве. Аб гэтым красамоўна сведчаць успаміны выдатнага скульптара Аляксандра Грубэ, які пісаў: «Вобраз Кастуся ў тыя часы захапіў мяне цалкам, і я па сваёй ініцыятыве, без аніякіх заказаў пачаў працаваць». А. Грубэ стварае скульптурны партрэт, а пасля праект помніка Кастусю Каліноўскаму. У гэтым творы скульптару хацелася выказаць гераічную рамантыку гэтага чалавека, які змагаўся і аддаў жыццё за шматпакутны народ. На I-й Усебеларускай выстаўцы, якая адбылася ў 1925 г. быў прадстаўлен бюст і праект помніка К. Каліноўскаму. Скульптурны партрэт быў рэпрадукаваны і выпушчаны паштоўкаю.

На той жа выстаўцы экспанаваўся жывапісны твор «Кастусь Каліноўскі» мастака Валянціна Волкава.

Мастацтвазнавец Леанід Дробаў пісаў аб гэтай карціне, што мастак паказаў Каліноўскага і паўстанцаў на фоне беларускай пушчы ў промнях сонечнага захада. Блакітна-ліловыя водбліскі, прыглушаныя халоднымі ценямі, выразныя сілуэты дрэў, постацей людзей — усё гэта стварыла ў карціне своеасаблівы каларыт, неабходны для раскрыцця сюжэта. Аўтар трактаваў вобраз К. Каліноўскага, як правадыра-рэвалюцыянера. Экспрэсіўнасць, дынамічнасць яго рамантычнай фігуры ўзмацняе напружанасць гістарычнага моманту.

У 1927 г. на II Усебеларускую выстаўку мастак Якаў Кругер прадставіў жывапісны партрэт Каліноўскага. Кастусь паўстае перад гледачом у нацыянальным адзенні на ўлонні беларускіх краявідаў. Твар яго спакойны, задуменны, поза статычная. Па выгляду ён больш паходзіць на тых сялянскіх дзяцюкоў, да якіх звяртаўся ў сваёй газеце «Мужыцкая праўда», чым на кіраўніка паўстання.

У 1929 г. адзін з пачынальнікаў беларускага гістарычнага жывапісу Міхаіл Філіповіч стварае тэматычную карціну «З часоў прыгоннага права» («Мы дружна паўстанем»), якая вызвала разнабаковыя суджэнні крытыкі. Так «Советская Белоруссия» ад 16 студзеня 1929 г. пісала, што карціна М. Філіповіча з прычыны празмернай эскізнасці і схематычнасці малюнка не аказвае ўздзеяння на гледача. Рэцэнзент нават злосна іранізіраваў, што паўстанцы ў гэтай карціне гуляюць у футбол і нікаго не палохаюць. У гэты ж час малады мастак А. Булычоў стварае карціну «К. Каліноўскі» у якой сумеў стварыць вобраз палымянага рэвалюцыянера.

Сярод мастакоў Заходняй Беларусі, якія звярталіся да вобраза К. Каліноўскага, трэба адзначыць выдатнага мастака і палымянага

патрыёта сваёй Бацькаўшчыны Пётра Сергіевіча. У пачатку 30-х гадоў ён стварае партрэт К. Каліноўскага, робіць некалькі эскізаў, а ў 1936 г. першы варыянт тэматычнай карціны «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў».

У 1934 г. у Вільні выходзіць паэма заходнебеларускага паэта Міхася Машары «Смерць Кастуся Каліноўскага». На вокладцы кнігі быў змешчаны партрэт Каліноўскага, гравіраваны на лінолеуме П. Сергіевічам. У 1939 г. напярэдадні Другой сусветнай вайны на выстаўцы заходнебеларускіх мастакоў у Баранавічах быў выстаўлены жывапісны твор «Кастусь Каліноўскі» аўтара М. Шыманоўскага ці Шымановіча. На шчасце карціна захавалася і цяпер знаходзіцца ў памяшканні варшаўскага аддзялення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Аднак з 30-х гадоў, калі вульгарная сацыялогія ўзяла верх ва ўсіх сферах духоўнага жыцця, увасабленне вобраза К. Каліноўскага ў выяўленчым мастацтве не змагло атрымаць той духоўнай, маральнай і матэрыяльнай падтрымкі, якую яно мела раней. Вульгарызатарская дзейнасць «левых» дэмаралізавала мастакоў, якія спрабавалі звяртацца да гісторыі свайго народа. Пачаліся адкрытыя шальмаванні і абвінавачванні ў нацдэмаўшчыне. К. Каліноўскага пачалі лічыць бунтаром, героем польскай шляхты.

Красамоўны факт. Скульптар З. І. Азгур у 1933 г. па заказу Этнаграфічнага музея ў Мінску вылепіў партрэт Каліноўскага, які быў размешчаны ў экспазіцыі «тыпы беларусаў», нават без указання прозвішча.

У гады Вялікай Айчыннай вайны імя К. Каліноўскага загучала з новай сілай. Многія партызанскія атрады і брыгады насілі ганаровую назву: атрад імя Кастуся Каліноўскага, брыгада імя Кастуся Каліноўскага.

Слонімская мастачка Алена Бялецкая ў 1943 г. да 80-годдзя з пачатку студзеньскага паўстання піша ў час фашысцкай акупацыі па заказу дырэктара Слонімскага музея партрэт Каліноўскага і робіць копію з карціны П. Сергіевіча «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў». Гэтая карціна заняла пачэснае месца ў адной з залаў музея, але скора абудзіла ў немцаў непрыемныя асацыяцыі і яны загадалі знішчыць яе, а мастачка была пасаджана ў турму. Аднак партрэт Каліноўскага і па сённяшні дзень знаходзіцца ў музеі г. Слоніма.

Беларускае выяўленчае мастацтва не сумела пераадолець сваю баязлівасць, набытую ёю ў часы вульгарызацыі, у часы калі актыўна знішчалася народная памяць і таму гістарычная тэма мінулага надоўга заставалася па-за яе ўвагаю. Але такое ганебнае становішча не магло бясконца працягвацца. Ужо і ў гэты час у асяроддзі беларускіх мастакоў былі людзі, чыя грамадзянская і нацыянальная свядомасць вылучаліся адметнай рысай, і голас іх многа значыў як для беларускага мастацтва, так і для духоўнага жыцця Беларусі.

Да ліку такіх мастакоў належаць Пётра Сергіевіч, чые светапогляды фарміраваліся пад уплывам нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. У 1948 г. ён стварае другі варыянт жывапіснай карціны «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 года», у 1955 г. — трэці, які знаходзіцца ў Мастацкім музеі Літоўскай ССР, а ў 1959 г. — новую карціну «К. Каліноўскі і В. Урублеўскі на аглядзе паўстанцаў». І па сённяшні дзень гэта адна з самых яркіх і мастацкіх работ, якая вобразна раскрыла веліч Каліноўскага і гістарычную значнасць паўстання 1863 г.

Трэба адзначыць, што яшчэ ў 1953 г. з Вільнюса быў запрошан у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут малады беларускі мастак-графік Сямён Герус. Ён стварыў пры інстытуце кафедру графікі і эстампную майстэрню. Не ацяжараны вульгарызатарскімі забабонамі і, адчуваючы рэзкую змену сацыяльнага жыцця ўсёй краіны, ён смела бярэцца за стварэнне шэрага гістарычных партрэтаў. Графічны твор «Кастусь Каліноўскі» (1953 г.), выкананы вуглём, адзін з найбольш удалых і лепшых у гэтай серыі. Постаць Каліноўскага паказана на фоне касінераў-паўстанцаў. У яго вобразе падкрэслены сіла волі, рашучасць і мужнасць. Удала выкарыстаны ў аркушы эфект асвятлення, які надае малюнку трывожны настрой. У 1965 г. С. Герус паўтарае гэтую работу з адпаведнымі дапаўненнямі і пераапрацоўкай у лінагравюры, а ў 1985 — у аўталітаграфіі.

У гэты час уносіць свой уклад у распрацоўку вобраза К. Каліноўскага і польскі мастак Эдвард Какошка. На падставе знойдзенага перад гэтым у Вільнюсе новага фотаздымка Каліноўскага, дзе ён быў зняты ў поўны рост, мастак робіць для музея Войска Польскага ў Варшаве нагрудны партрэт змагара, дзе ўпершыню выкарыстаў новы іканаграфічны матэрыял.

У 1958 г. Раіса Кудрэвіч і Адольф Гугель ствараюць тэматычную карціну «Кастусь Каліноўскі». На местачковым кірмашы сярод простага люду на падводзе стаіць К. Каліноўскі і гаворыць палітычную прамову. У яго вобразе падкрэслены рэвалюцыйнае натхненне агітатара, непахісная перакананасць у выбраным шляху, мужнасць. Постаці сялян, дынаміка іх руху, уважлівыя погляды да прамоўцы і пранікнёнасць да яго слова, засяроджа-

насць іх твараў дапамагаюць нам лепей успрымаць вобраз рэвалюцыянера.

Адметнай падзеяй у мастацкім жыцці Беларусі было стварэнне бюста К. Каліноўскага З. І. Азгурам і ўстаноўка яго ў 1958 г. ў мястэчку Свіслач на радзіме рэвалюцыянера. У 1960 г. З. І. Азгур пераводзіць першапачатковы партрэт Каліноўскага з гіпсу ў граніт, які набывае Дзяржаўны мастацкі музей БССР.

Устаноўка бюста Каліноўскага на яго радзіме натхніла самадзейнага гродзенскага разьбяра Аляксандра Ліпеня на стварэнне драўлянай скульптуры правадыра паўстання ў 1959 г. Цяпер яна знаходзіцца ў абласным Доме народнай творчасці.

У 1963 г. грамадскасць Беларусі і Літвы шырока адзначала 100-годдзе рэвалюцыйных падзей. Але мастакі Беларусі па-ранейшаму застаюцца няўважлівымі як да прызнання значэння рэвалюцыйнага руху, так і да яго выдатнейшага кіраўніка К. Каліноўскага. Амаль за дзесяцігоддзі не было створана ні аднаго мастацкага твора, прысвечанага Каліноўскаму ці падзеям 1863 года.

У 1968 годзе Яўген Ціхановіч стварыў экслібрыс, дзе вобраз Каліноўскага-рэвалюцыянера ўзмацняецца вобразамі паўстанцаў-касінераў, якіх ён узначальвае. У маленькім творы адчуваецца подых рэвалюцыі, змаганне народных мас, іх рашучасць і мужнасць весці барацьбу за зямлю і волю, за Беларусь. У тым жа годзе выходзіць кніга Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», якую цудоўна праілюстраваў Арлен Кашкурэвіч. У невялікай рабоце мастак намаляваў вобраз Каліноўскага рэльефна і пранікнёна. Перад намі прадстае рэвалюцыянер засяроджаны клопатамі напярэдадні паўстання.

І толькі, пачынаючы з 70-х гадоў, мастакі ўсё больш настойліва пачалі звяртацца да вобраза К. Каліноўскага. Гэта было звязана з агульным фарміраваннем нацыянальнай самасвядомасці, з тым, што вырасла новая генерацыя мастакоў, якія пачалі ў сваёй творчасці шукаць гістарычныя карані свайго народа.

У 1972 г. Уладзімір Стэльмашонак піша карціну «Слова аб Беларусі», дзе побач з усімі найвыдатнейшымі дзеячамі Беларусі прадстаўлены і К. Каліноўскі. Гэта раскрывала яго веліч і значнасць для беларускага народа.

У гэтым годзе мастачка з Гродна Людміла Налівайка робіць карціну «К. Каліноўскі і В. Урублеўскі». У ёй пераканаўча створаны каларытныя вобразы выдатных рэвалюцыянераў Беларусі.

У 1975 г. Леанід Шчамялёў намаляваў карціну «Канстанцін Каліноўскі», дзе вобраз героя прасякнуты пачуццямі рэвалюцыйнага рамантызму, гераізму, чалавечай годнасці і вялікай верай за свой народ. Вялікую ролю ў карціне адыгрывае колер, які надае ёй узнёсласць, прыгажосць. Дзівосныя знаходкі колеру і рытму, каларыстычныя кантрасты і тонкія пераходы пры захаванні цэласнасці кожнай рэчы. Усё гэта стварае звонка рамантычнае і востра паэтычнае ўспрыманне падзей, якія падае мастак на сваёй карціне. Тут мы адчуваем сувязь не толькі з гістарычнай спадчынай, але і сувязь з народным мастацтвам, побытам, лёсам, сувязь з народнай мастацкай свядомасцю.

Наступным жывапісным творам стаў трыпціх Фелікса Янушкевіча (1978) «Кастусь Каліноўскі», які выклікаў зацікаўленасць усёй мастацкай грамадскасці рэспублікі. Затым мастак Аляксей Марачкін напісаў партрэт «Кастусь Каліноўскі» (1980). Другую карціну «Кастусь Каліноўскі» Марачкін намаляваў у 1985 г. Партрэт нязломнага рэвалюцыянера паказаны ў поўны рост. У руцэ — шабля, як напамін аб мужнасці і самаадданасці рэвалюцыянера за спрадвечныя ідэалы народа. За спіной змагара аблічча маці з дзіцем на руках. Яно ўспрымаецца як святы абраз, як Беларусь. Гэта яго надзея, вера,ідэал. За яе ён аддаў сваё жыццё.

І нарэшце, у 1987 г. Гаўрыла Вашчанка прысвяціў паўстанню 1863 г. трыпціх «За зямлю, за волю», дзе ў левай частцы паказаў вобраз непахіснага рэвалюцыянера К. Каліноўскага, які дае клятву сумесна са сваімі паплечнікамі змагацца за зямлю і волю свайго народа, за яго нацыянальную незалежнасць. Шэравата-ліловы тон карціны стварае эмацыянальны настрой трывогі і заклапочанасці за лёс народа, за лёс паўстанцаў.

Плённа распрацоўвалася тэма вобраза К. Каліноўскага беларускімі графікамі. У 1973 г. да 110-годдзя з дня паўстання 1863 г. мастак Пётр Драчоў стварыў каляровую літаграфію «Паўстанне 1863 г.». Хаця ў гэтай станковай рабоце вобраз К. Каліноўскага аддаляецца ад цэнтральнага плана, але сам твор адыгрывае значную ролю ў трактоўцы рэвалюцыйных падзей, у накале барацьбы, у яе ахвярнасці з боку народа і бяздушнасці царскіх улад, іх планамернаму, мэтанакіраванаму забойству і знішчэнню яго. Дзве варожыя сілы сталі адна супраць другой — абяздоленыя, абкрадзеныя народныя масы Беларусі і «унутраныя туркі», на літасць якіх нельга разлічваць народу.

У 1976 г. Васіль Шаранговіч зрабіў каляровую лінагравюру «А хто там ідзе?», дзе ў цэнтральнай частцы побач з Янкам Купалам пададзены К. Каліноўскі. Тады ж два выпускнікі графічнага аддзялення Мінскага тэат-

ральна-мастацкага інстытута, яго вучні Мікалай Селяшчук і Мікалай Купава прадстаўляюць для абароны дыплома серыі ілюстрацый паводле кнігі Алеся Якімовіча «Кастусь Каліноўскі» і кнігі Генадзя Кісялёва «Сейбіты вечнага».

Цікава награвіраваны станковы лінарыт М. Купавы «Напачатку. Кастусь Каліноўскі» (1977). Трактоўка галавы героя, яго адзенне, грывы каня на цёмным трывожным фоне пададзена ў выглядзе языкоў полымя. Усё гэта дапамагае стварыць эмацыянальна-рамантычны настрой, усхваляванасць за лёс героя, адчуць подых рэвалюцыйнага гарэння. Праз год М. Купава зрабіў каляровы лінарыт «Кастусь Каліноўскі», дзе паказаў вобраз рэвалюцыянера як асветніка-рэдактара першай нелегальнай газеты «Мужыцкая праўда».

У 1983 г. графік Міхаіл Басалыга адну з літаграфій серыі «У бітвах за долю, у бітвах за волю», прысвяціў К. Каліноўскаму. Перад намі — кіраўнік паўстання, рашучы змагар за ідэалы народа. Ён верхам на кані, узброены шабляй. Гэта дапамагае ўспрыняць нам яго вобраз як мужнага, непахіснага, самаахвярнага нацыянальнага героя.

Да 120-годдзя з дня смерці К. Каліноўскага мастак Уладзімір Крукоўскі стварае трыпціх плакатаў «Памяці Кастуся Каліноўскага» (1983). Вобраз рэвалюцыянера пададзены рэльефна, псіхалагічна пераканаўча і найбольш прыбліжаны да іконаграфічнага матэрыялу.

У 70-я гады пачынаюцца першыя распрацоўкі вобраза К. Каліноўскага ў манументальным мастацтве. У 1976 г. Г. Вашчанка завяршае ў рэспубліканскім Доме настаўніка насценны роспіс энкаўстыкай па тынкоўцы пано «Асветнікі», дзе побач з вобразамі выдатных дзеячаў беларускай культуры Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Сімяона Полацкага падае вобраз Кастуся Каліноўскага. Мэтай мастака было перадаць не толькі іконаграфічную падобнасць, а выявіць у вобразах беларускіх асветнікаў галоўнае — творчы пачатак. Рысы характару Каліноўскага праглядваюцца ў дынаміцы руху, ва ўпэўненасці і перакананасці сваім светапоглядам.

У 1980 г. вучні Г. Вашчанкі Віктар Ціханаў і Віктар Барабанцаў для 67-й школы г. Мінска ствараюць фрэску «Сынам зямлі Беларусі прысвячаецца», дзе таксама побач з выдатнымі дзеячамі беларускай культуры і вобраз К. Каліноўскага. Ён паказаны на фоне архітэктуры старога Мінска. За яго спіной развяваюцца лісты адозваў і «Мужыцкай праўды». У руцэ змагар трымае першую нелягальную газету, напісаную на роднай мове, дзе сцвярджае народу свае рэвалюцыйныя погляды. Упэўнены крок. Мэтанакіраваны позірк звернуты да сваіх нашчадкаў, якім завяшчаецца рэвалюцыйная непахіснасць і перакананасць, высокая чалавечая годнасць, нацыянальная і сацыяльная самасвядомасць.

Вобраз Каліноўскага ў скульптуры пачаў распрацоўвацца больш плённа з канца 70-х — пачатку 80-х гадоў.

У 1977 г. Леў Гумілеўскі робіць партрэт К. Каліноўскага з граніту. Сам матэрыял як бы дапамагае мастаку падкрэсліць стойкасць і цвёрдасць характару героя, перадаць цэльнасць натуры, яе энергічную сабранасць, высокую духоўнасць. Гэты твор — адзін з лепшых псіхалагічных партрэтаў Каліноўскага ў скульптуры. На наступны год скульптар стварыў кампазіцыйны партрэт К. Каліноўскага. Тут мы зноў прачытваем тую ж моцную волю характару героя, той жа глыбокі псіхалагізм. Па кампазіцыйнай пабудове работа ў нечым напамінае скульптуру Мікеланджэла «Звязаны раб». На наш погляд загана заключаецца не ў запазычанасці кампазіцыі, а ў трактоўцы вобраза рэвалюцыйнага дэмакрата, непрыхільнага змагара і актыўнага барацьбіта, кіраўніка паўстання звязанага як раба, які імкнецца разарваць свае путы. Новыя эпохі патрабуюць новых метафар.

У 1983—1985 гг. два скульптары творчай майстэрні ордэна Леніна Акадэміі мастацтваў СССР у Мінску — Сяргей Бандарэнка і Уладзімір Вараб'ёў ствараюць як бюставыя партрэты, так і праекты помніка К. Каліноўскаму. Бандарэнка стварыў конную статую рэвалюцыянера, а Вараб'ёў — статую на поўны рост. Аўтары рознымі сродкамі сцвярджаюць вобраз рэвалюцыянера. Але кожны з іх сумеў пераканаўча перадаць рэвалюцыйны парыў, энергічную сабранасць, высокую мэтанакіраванасць і цэльнасць натуры Каліноўскага.

Цікавую скульптурную кампазіцыю з бронзы «На роздуме, К. Каліноўскі» і рэльеф з сілуміну выканаў Сяргей Логвін у 1984 г. У тым жа годзе ён стварыў гіпсавы партрэт К. Каліноўскага. У кожным з гэтых мастацкіх твораў Каліноўскі пададзен як рэвалюцыянер-змагар. Мы адчуваем напружанасць у хвіліны роздуму і дынамізм усёй яго постаці ў часы рэвалюцыйных падзей.

Валеры Янушкевіч у 1983 г. стварае рэльеф з сілуміна «1863 год», дзе перадаў узрушанасць народных мас у часы паўстання, яго мэтанакіраванасць і самаахвярнасць.

Увасабленне вобраза К. Каліноўскага ў медальерным мастацтве толькі пачынаецца. У 1980 г. скульптар Эдуард Астаф'еў вырабіў з сілуміна медаль, на якім прадставіў тэму:

«Кіраўнік сялянскага паўстання Кастусь Каліноўскі». На адваротным баку — вогнішча, якое сімвалізуе полымя паўстання і дата «1863».

У 1983 г. Аляксандр Фінскі стварае бронзавы медаль «Кастусь Каліноўскі. Мужыцкая праўда». Твар «Яські — гаспадара з-пад Вільні» пададзены буйна, псіхалагічна перакананана.

У 1984 г. С. Логвін і Алесь Дранец ствараюць бронзавыя плакеты «Кастусь Каліноўскі», якія вылучаюцца дакладнай апрацоўкай; узбуйненасцю твара героя, перакананасцю вобраза, глыбокім псіхалагізмам.

Летась мастак Мікалай Несцяроўскі ў керамічным медалі «Кастусь Каліноўскі» імкнуўся перадаць іконаграфічнае падабенства і стварыў вобраз непахіснага рэвалюцыянера, перадаў яго валявыя якасці. Адначасова Мікалай Байрачны ў керамічным медалі перадае вобраз палымянага правадыра паўстання, які конна скача на ворагаў. І хаця на палях медаля няма ні ворагаў, ні атрадаў паўстанцаў, але пераканаўчая сіла мастацкага ўспрымання вобраза змагара застаўляе нас адчуваць набліжэнне бітвы, подых грознага моманту. Немалаважную дэталь у медалі адыгрывае імгненны ўзлёт сокала ў паднябессе. Ён сімвалізуе ўзлёт самога К. Каліноўскага ў душах і сэрцах беларускага народа.

Сярод новых твораў, падрыхтаваных да юбілею К. Каліноўскага і студзеньскага паўстання 1863 г., экспанаваліся жывапісныя карціны, графічныя аркушы, скульптуры, медалі, габелены. У жывапісе неабходна адзначыць «Парасткі паўстання» Віктара Альшэўскага, «За волю» Мікалая Апіёка, «Абуджэнне» і «Кастусь Каліноўскі» Віктара Барабанцава, «Трыумф Мураўёва-вешальніка» Алеся Марачкіна, цэлы цыкл твораў Віктара Маркаўца, у якіх ён апаэтызаваў радзіму змагара, «Генрых Дмахоўскі з паўстанцамі», Генрыха Ціхановіча, «Легенда» Уладзіміра Голуба, «Кастусь Каліноўскі сярод касіянераў» Віктара Шматава, «Слова Кастуся» Алеся Зіменкі, «Наступ інсургентаў» Фелікса Янушкевіча.

У графіцы найболей цікавыя новыя творы былі паказаны Эдуардам Агуновічам «За годнасць», Яўгенам Куліком «Паўстанцы каля кузні», Раісай Сіпліевіч аўталітаграфічны партрэт К. Каліноўскага, Галінай Хінько-Янушкевіч трыпціх «Яны стаялі за нас».

У скульптуры дабавіліся новыя творы Валянціна Занковіча «Валеры Ўрублеўскі», Генадзя Лойкі «Прысяга», маладога мастака Канстанціна Селіханава «Словы Кастуся», мастака з Гродна Аляксандра Анціпіна «Правадыры паўстання — Кастусь Каліноўскі, Траўгут Рамуальд, Урублеўскі Валяр'ян», Аляксандра Шатэрніка «Кастусь Каліноўскі і праект помніка змагару, выкананы Валерам Янушкевічам.

У зале дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва звярнулі на сябе ўвагу новыя творы Віктара Ціханава «Жыві ў свабодзе мужыцкій народзе», габелен «Паўстанне 1863 года» Галіны Крываблоцкай, шэраг мініяцюрных габеленаў, выкананых тонка, дакладна, з высокім мастацкім густам Сымонам Свістуновічам. Убачылі гледачы і новыя медалі, зробленыя Юрасём Анушкам, Яўгенам Валасевічам, Яўгенам Колчавым, Сяргеем Гумілеўскім, Паўлам Лукам. Творы адрозніваюцца па форме, па трактоўцы вобраза, па мастацкіх якасцях, але кожны з іх перадае натхнёны вобраз змагара.

Новыя творы дапоўнілі шматгранны вобраз Кастуся Каліноўскага, паглыбілі распрацоўку мастакамі Беларусі гісторыі свайго народа, яго гераічнага і рэвалюцыйнага мінулага, з'явіліся далейшым набыткам выяўленчага мастацтва рэспублікі. Выстаўкі арганізаваныя да юбілею К. Каліноўскага і студзеньскага паўстання 1863 г. — вянкі нацыянальнаму герою, адданаму рэвалюцыянеру, нястомнаму змагару, палымянаму публіцысту, выдатнаму асветніку і паэту.

*Анатоль БЕЛЫ.*



*Ф. Янушкевіч. Цэнтральная частка трыпціха «Кастусь Каліноўскі».*



23



121




72



52



83

33






61




100



107



90



96



62



119

# КАТАЛОГ

## „Кастусь Каліноўскі і студзеньскае паўстанне 1863 года на Беларусі“

*Збор мастацкіх твораў*

### ЖЫВАПІС

**Альшэўскі Віктар Уладзіміравіч.** 1953. Мінск.
1. «Парасткі паўтання. 1963 год». 1988. Пал., алей. 90 × 110 см.

**Апіёк Мікалай Апанасавіч.** 1935. Мінск.
2. «За волю» 1988. Пал., алей. 122 × 75 см.
3. «Раніца» 1988. Пал., алей. 150 × 110 см.

**Барабанцаў Віктар Кірылавіч.** 1947. Мінск.
4. «Абуджэнне». 1987. ДВП, алей. 120 × × 100 см.
5. «Кастусь Каліноўскі». 1988. ДВП, алей. 70,5 × 60,5 см.

**Бялецкая Алена Мечыславаўна.** Слонім.
6. «Кастусь Каліноўскі». 1943. Пал., алей.

**Вашчанка Гаўрыла Харытонавіч.** 1928. Мінск.
Народны мастак БССР.
7. «Клятва». Левая частка трыпціха «За зямлю, за волю». 1983 — 1987. ДВП, алей, 275 × 122 см.

**Голуб Уладзімір Пятровіч.** 1953. Гродна.
8. «Легенда», 1988. Пал., алей. 160 × 160 см.

**Гугель Адольф Самуілавіч.** 1915. Мінск.
Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

**Кудрэвіч Раіса Уладзіміраўна.** 1919. Мінск.
Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.
9. «Кастусь Каліноўскі». 1958. Пал., алей. 200 × 376 см.

**Зіменка Алесь Іванавіч.** 1940. Фаніпаль.
10. «Слова Кастуся». 1988. ДВП, алей. 40 × × 30 см.

**Какошка Эдвард.** Варшава.
11. «Кастусь Каліноўскі». Партрэт 1953. Пал., алей.

**Камароў Васіль Васільевіч.** 1953. Магілёў.
12. «За нашу і вашу волю. 6 мая 1863 года. Людвіг Звяждоўскі пад Горкамі». 1987. Пал., алей. 116 × 116 см.

**Кругер Якаў Макаравіч.** 1869 — 1940. Мінск.
Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.
13. «Кастусь Каліноўскі». 1927. Пал., алей.

**Марачкін Аляксей Антонавіч.** 1940. Мінск.
14. «Кастусь Каліноўскі». 1980. Пал., алей.
15. «Кастусь Каліноўскі». 1985. Пал., алей. 228 × 120 см.
16. «Трыумф Мураўёва-Вешальніка». 1988. Пал., алей. 160 × 115 см.

**Маркавец Віктар Пятровіч.** 1947. Мінск.
17. «Мастаўляны. У старым парку». 1988. Пал., алей. 125 × 180 см.
18. «Мастаўляны. Будынак школы імя Кастуся Каліноўскага». 1988. Кардон, алей 32,5 × 48 см.

**Сергіевіч Пётра Аляксандравіч.** 1900 — — 1984. Вільня.
Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР.
19. «Кастусь Каліноўскі — сярод паўстанцаў 1863 года». 1955. Пал., алей.
20. «К. Каліноўскі і В. Урублеўскі на аглядзе паўстанцаў». 1959. Пал., алей.

**Стэльмашонак Уладзімір Іванавіч.** 1928. Мінск.
Народны мастак БССР.
21. «Слова аб Беларусі». 1978. Пал., алей. 200 × 212 см.

**Тоўсцік Уладзімір Аляксандравіч.** 1949. Мінск.
22. Паўстанне. Год 1863». 1980. Пал., алей. 96 × 115 см.

**Ціхановіч Генрых Яўгенавіч.** 1937. Мінск.
23. «Генрых Дмухоўскі з паўстанцамі». 1988. Пал., алей. 100 × 165 см.

**Шматаў Віктар Фёдаравіч.** 1936. Мінск.
24. «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў». 1988. Пал., алей. 108 × 135 см.

**Шчамялёў Леанід Дзмітрыевіч.** 1923. Мінск.
Народны мастак БССР.

25. «Кастусь Каліноўскі». 1975. Пал., алей. 205 × 148,5 см.
**Шыманоўскі М.** (Шымановіч?) Баранавічы.
26. «Кастусь Каліноўскі». 1939. Пал., алей.
**Янушкевіч Фелікс Язэпавіч.** 1954. Мінск.
27. З трыпціха «Кастусь Каліноўскі». Левая частка «Мужыцкая праўда». 1978. Пал., алей. 230 × 130 см.
28. «Наступ інсургентаў». 1987. Пал., алей. 180 × 300 см.

## МАНУМЕНТАЛЬНЫ ЖЫВАПІС

**Барабанцаў Віктар Кірылавіч.** 1947. Мінск.
**Ціханаў Віктар Пятровіч.** 1955. Мінск.
29. Фрагмент з насценнага роспісу «Сынам зямлі Беларускай прысвячаецца». Фрэска «Кастусь Каліноўскі». 1980.
**Вашчанка Гаўрыла Мартынавіч.** 1928. Мінск.
Народны мастак БССР.
30. Фрагмент левай часткі насценнага роспісу «Асветнікі». 1976. Энкаустыка па тынкоўцы.

## ГРАФІКА

**Агуновіч Эдуард Канстанцінавіч** 1937. Мінск.
Заслужаны работнік культуры БССР.
З серыі «Пачынальнікі».
31. «За годнасць». 1988. Афорт 64 × 50 см.
32. «Шануйце роднае слова». 1983. Афорт 57 × 44 см.
**Басалыга Міхась Самуілавіч.** 1942. Мінск.
З нізкі «У бітвах за волю, у бітвах за долю».
33. «Кастусь Каліноўскі». 1965. Лінарыт. 61 × 44 см.
**Герус Сямён Пятровіч.** 1925. Мінск.
34. «Кастусь Каліноўскі». 1965. Лінарыт. 44 × 61 см.
35. «Кастусь Каліноўскі». 1985. Літаграфія. 61 × 44 см.
**Драздоў Генадзь Пятровіч.** 1959. Мінск.
36. «Кастусь Каліноўскі». 1988. Кал. літаграфія. 45,5 × 38,5 см.
**Драчоў Пётр Мікалаевіч.** 1937. Мінск.
37. «Паўстанне 1863 года». 1973. Кал. літаграфія. 57 × 67 см.
38. «Страта». 1988. Акварэль, туш.
**Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч.** 1929. Мінск.
Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.
39. Ілюстрацыя да рамана Ул. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». 1976. Пап., туш. 28 × 16 см.
40. «Прысвячаецца 1863 году». 1986. Літаграфія. 46 × 26 см.
**Крывенка Анатоль Змітрыевіч.** 1940. Мінск.
41. «Кастусь Каліноўскі». 1988. Пап., вугаль. 40 × 26 см.
**Купава Мікалай Мікалаевіч.** 1946. Мінск.
42 — 47. Ілюстрацыі да кнігі Генадзя Кісялёва «Сейбіт вечнага». 1976.
42. Вокладка кнігі. 1976. Лінарыт. 41 × × 29 см.
43. «Мужыцкая праўда. 1863 год». 1976. Лінарыт. 38,5 × 27,7 см.
44. «Атака». 1976. Лінарыт. 38,2 × 27,7 см.
45. «У Сібір. 1864 год». 1976. Лінарыт. 38,3 × 27,7 см.
46. «Антон Трусаў. Кіраўнік мінскіх паўстанцкіх атрадаў». 1976. Лінарыт. 29,3 × × 19,7 см.
47. «Францішак Багушэвіч». 1976. Лінарыт. 29,3 × 19,7 см.
48. «Напачатку. Кастусь Каліноўскі». 1977. Лінарыт 50 × 36,2 см.
49. «Кастусь Каліноўскі». 1978. Кал. Лінарыт. 50 × 36 см.
50. «Францішак Багушэвіч». 1977. Кал. лінарыт. 44 × 30 см.
**Лалыка Барыс Генадзьевіч.** 1962. Мінск.
51. «1863 год». 1988. Кал. літаграфія. 52 × × 72 см.
**Прывада Сяргей Пятровіч.** 1961. Наваполацк.
52. «Кастусь Каліноўскі». 1983. Літаграфія. 43,5 × 28 см.
**Селяшчук Мікалай Міхайлавіч.** 1947. Мінск.
53 — 60. Ілюстрацыі да кнігі Алеся Якімовіча. «Кастусь Каліноўскі». 1976. Літаграфія. 32 ×23 см — 8 шт.
**Сергіевіч Пётра Аляксандравіч.** 1900 — 1984. Вільня.
Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР.
Вокладка паэмы Міхася Машары. «Смерць Каліноўскага». 1934. Лінарыт.
62. «Кастусь Каліноўскі». 1935. Пап., аловак.
**Сіпліевіч Раіса Паўлаўна.** 1949. Мінск.
63. «Кастусь Каліноўскі. 1988. Літаграфія. 48 × 37 см.
**Хінько-Янушкевіч Галіна Сяргееўна.** 1962. Мінск.
З нізкі «Яны стаялі за нас».
64. «Паланез Агінскага». 1988. Акваціна. 21 × 29 см.
65. «Удовам 1863 года». 1988. Акваціна. 21,5 × 27,5 см.
**Шаранговіч Васіль Пятровіч.** 1939. Мінск.
Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

66. «А хто там ідзе?» 1976. Літаграфія. 55,5 × × 86.

### ПЛАКАТ

**Крукоўскі Уладзімір Якаўлевіч.** 1937. Мінск.

67. «1862. 120 гадоў «Мужыцкай праўдзе». 1982. ДВП, гуаш. 75 × 50 см.
68. «120 гадоў паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага». 1983. ДВП, гуаш. 75 × × 50 см.
69. «120 гадоў з дня смерці К. Каліноўскага». 1983. ДВП, гуаш. 75 × 50 см.
70. «120 гадоў студзеньскаму паўстанню на Беларусі». 1983. ДВП, гуаш. 75 × 50 см.

**Мацур Генадзь Іванавіч.** 1960. Мінск.

71. «1863. Сялянскаму паўстанню пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага прысвячаецца». 1988. Гуаш.

**Ракіцкі Канстанцін Сямёнавіч.** 1944. Мінск.

72. «Кастусь Каліноўскі 1863 — 34 гг.». 1988. ДВП, гуаш. 90 × 60 см.

### ЭКСЛІБРЫС

**Басалыга Уладзімір Самойлавіч.** 1940. Мінск.

73. Кніга У. Караткевіча. 1980. Літаграфія. 10,5 × 9 см.
74. З кніг Л. Шчамялёва. 1980. Літаграфія. 13 × 9 см.

**Жук Уладзімір Міхайлавіч.** 1955. Мінск.

75. З кнігазбору А. Я. Белага. Цынкаграфія. 21 × 13,5 см.

**Ціхановіч Генрых Яўгенавіч.** 1937. Мінск.

76. З кніг Я. Куліка. 1970. Лінарыт. 7,2 × × 7,5 см.

**Ціхановіч Яўген Мікалаевіч. 1911.** Мінск.

77. З кніг В. К. Палікарпава. 1968. Лінарыт. 13 × 8,6 см.

### СКУЛЬТУРА

**Азгур Заір Ісакавіч,** 1908. Мінск.
Народны мастак СССР.

78. Помнік К. Каліноўскаму у м. Свіслач. 1958.
79. «Кастусь Каліноўскі». 1960. Граніт.

**Анціпін Аляксандр Сяргеевіч.** 1956. Гродна.

80. «Правадыры паўстання — Каліноўскі Кастусь, Траўгут Рымуальд, Урублеўскі Валяр'ян». 1988. Гіпс тан. 49 × 49 × × 47 см.

**Бандарэнка Сяргей Апанасавіч.** 1956. Мінск.

81. «Кастусь Каліноўскі». 1984. Гіпс тан. 75 × 51 × 36 см.
82. Праект помніка К. Каліноўскаму. 1985 Гіпс тан.

**Вераб'ёў Уладзімір Пятровіч.** 1954. Мінск.

83. Праект помніка К. Каліноўскаму. 1985. Гіпс тан. 88 × 31 × 26 см.

**Грубэ Аляксандр Васільевіч.** 1894 — 1980. Мінск.
Народны мастак БССР.

84. «Кастусь Каліноўскі». 1925. Гіпс.

**Гумілеўскі Леў Мікалаевіч.** 1930. Мінск.
Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

85. «Кастусь Каліноўскі». 1977. Граніт.
86. «Кастусь Каліноўскі». 1978. Гіпс тан. 94,5 × 22,5 × 44 см.
87. «Кастусь Каліноўскі. За зямлю, за волю. 1863 г.». 1988. Гіпс тан. 112 × 105 × × 38 см.

**Занковіч Валянцін Паўлавіч.** 1937. Мінск.
Лаўрэат Ленінскай прэміі СССР.

88. «Валеры Урублеўскі». 1968. Гіпс. 70 × 40 × 30 см.

**Логвін Сяргей Анатольевіч.** 1959. Мінск.

89. «І часам спамяні пра Яську свайго». 1983. Рэльеф. Сілумін.
90. «Кастусь Каліноўскі. Роздум». 1983. Бронза, граніт.
91. Партрэт «Кастусь Каліноўскі». 1984. Гіпс тан. 42 × 33 × 30 см.
92. «Кастусь Каліноўскі». 1988. Бронза, граніт.

**Лойка Генадзь Станіслававіч.** 1962. Мінск.

93. «Прысяга». 1988. Шамот. 35 × 34 × 38 см.

**Несцярэўскі Мікалай Лаўрэнцьевіч.** 1931. Мінск.

94. Партрэт «Кастусь Каліноўскі». 1988. Гіпс тан. 39 × 28 × 29 см.

**Селіханаў Канстанцін Уладзіміравіч.** 1967. Мінск.

95. «Словы Кастуся». Рэльеф. 1988. Гіпс. 68 × 90 см.

**Шатэрнік Аляксандр Сяргеевіч.** 1940. Мінск.

96. «Кастусь Каліноўскі». Партрэт. 1988. Гіпс тан. 55 × 36 × 40 см.

**Янушкевіч Валеры Язэпавіч.** 1962. Мінск.

97. «1863 год». Рэльеф. 1962. Сілумін. 130 × × 60 см.
98. Праект помніка Кастусю Каліноўскаму. 1987. Бронза, граніт. 30 × 20 × 22 см.

### МЕДАЛЬЕРНАЕ МАСТАЦТВА

**Аляшчынскі Уладзіслаў** (O. W). Вільня.

99. Адам Міцкевіч. 1858. Бронза .Д-14 см.

**Астаф'еў Эдуард Барысавіч.** 1942. Мінск.

100. «Кіраўнік сялянскага паўстання Кастусь Каліноўскі». 1980. Гіпс. Д-20 см.

**Асташонак Генадзь Адамавіч.** 1955. Мінск.
101. «В. Дунін-Марцінкевіч». 1983. Тэракота. Д-4,5 см.
**Байрачны Мікалай Іванавіч.** 1950. Мінск.
102. Плакета «Кастусь Каліноўскі». 1938 — 1988». 1988. Тэракота, вашчэнне. 22 × × 12,5 см.
**Валасевіч Яўген Пятровіч.** 1962. Мінск.
103. «Кастусь Каліноўскі». 1988. Тэракота, солі. Д-4 см.
**Гарбунова Святлана Рыгораўна.** 1954.
104. «Уладзіслаў Сыракомля». 1984. Сілумін. Д-17 см.
105. «В. Дунін-Марцінкевіч». 1984. Сілумін. Д-17 см.
**Гумілеўскі Сяргей Львовіч.** 1963. Мінск.
106. Плакета «Кастусь Каліноўскі». 1988. Тэракота, вашчэнне. 15 × 9 см.
**Дранец Алесь Валянцінавіч.** 1962. Мінск.
107. Плакета «Кастусь Каліноўскі». 1986. Бронза, ліццё. 20 × 20 см.
**Колчаў Яўген Аляксандравіч.** 1959. Мінск.
108. Плакета «Кастусь Каліноўскі». 1988. Бронза, ліццё. 12 × 19 см.
**Ларчанка Станіслаў Міронавіч.** 1938. Мінск.
109. «Адам Міцкевіч». Плакета. 1984. Бронза, ліццё. 18,5 × 12,5 см.
110 — 112. Серыя. Прысвячэнне Кастусю Каліноўскаму.
110. «Званы». Плакета. 1983. Цынк. 10,5 × × 10,5 см.
111. «Касінер». Плакета 1983. Цынк. 10,5 × × 10,5 см.
112. «Развітанне». Плакета. 1983. Цынк. 18,5 × 10,5 см.
**Логвін Сяргей Анатольевіч.** 1959. Мінск.
113. «Кастусь Каліноўскі». Плакета. 1984. Тэракота, вашчэнне. 10 × 10 см.
114. «Кастусь Каліноўскі». 1987. Гіпс. Д-16 см.
**Лук Павел Іванавіч.** 1956. Мінск.
115. «Кастусь Каліноўскі. 1838 — 1988». 1988. Гіпс Д-31 см.
**Несцярэўскі Мікалай Лаўрэнцьевіч.** 1931. Мінск.
116. «Кастусь Каліноўскі. 1833 — 1864». 1988. Тэракота, вашчэнне. Д-15,5 см.
**Фінскі Аляксандр Міхайлавіч.** 1962. Мінск.
117. «Кастусь Каліноўскі. Мужыцкая праўда». 1983. Гіпс. тан. Д-21,5 см.
**Янушкевіч Валеры Язэпавіч.** 1962. Гіпс. 12 × 17 см.
118. «Адам Міцкевіч». Плакета. 1982. Гіпс. 12 × 17 см.

## ДЭКАРАТЫУНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА

**Барабанцаў Віктар Кірылавіч.** 1947. Мінск.
119. «Кастусь Каліноўскі». 1984. Мазаіка. Смальта. 72 × 55 см.
**Ліфанаў Сяргей Васільевіч.** 1955. Мінск.
120. Кампазіцыя «Рэквіем». 1988. Гліна, флюсны, глазур. 38 × 40 × 40 см.
**Свістуновіч Сымон Сцяпанавіч.** 1946. Баранавічы.
121. «П'ета». 1988. Лен, ручное ткацтва. 90 × × 47 см.
Кастусь Каліноўскі, Яраслаў Дамброўскі, Рамуальд Траўгут, Валеры Урублеўскі, Зыгмунд Серакоўскі, Антанас Мацкявічус — усе 1988. Лен, ручн. ткацтва. 23,5 × 19 см.
122. «Паражэнне». 1988. Лен, ручн. ткацтва. 40 × 40 см.
**Тарановіч Алесь Сяргеевіч.** 1955. Мінск.
123. «1863 год». 1983. Алюміній, чаканка. 77 × 55 см.

Минск. Тип. БГУ. 1989 г. Зак. 540. Тир. 1000


1863
сялянскаму паўстанню
пад кіраўніцтвам
Кастуся Каліноўскага
прысвячаецца